Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
7 сакавіка 2001 г.
№ 10 (506)
Кошт 85 рублёў

## Рэжысёр збіў жанчыну

**На мінулым тыдні ў культурным асяроддзі нашага горада прайшла пагалоска, быццам Гарадзенскі абласны драматычны тэатр ізноў застанецца без галоўнага рэжысёра, бо Сяргея Палешчанкава, які пакуль займае гэтую пасаду, вышэйшае начальства «папрасіла» самастойна звольніцца за ўчынены п'яны дэбош у грамадскім месцы.**

Справа ў тым, што Сяргей Палешчанкаў 22 лютага ў кафэ па вуліцы Дзяржынскага (так званая «Стекляшка») публічна ўчыніў непрыстойнасці і збіў супрацоўніцу кафэ, якая паспрабавала ўтаймавасць «пэрформанс» дэбашыра. На дапамогу падаспеў нарад міліцыі, і скандалісту давялося пераначаваць у камеры папярэдняга затрымання. Супраць Палешканкава распачата крымінальная справа за хуліганства (артыкул 339, ч.1 КК РБ).

Такі выпадак можна было палічыць за банальны, каб падобнае ўчыніў звычайны п'янтос, а не галоўны рэжысёр тэатра, які пакліканы несці культуру ў масы.

**Ул.інф.**

## Малады Фронт павіншаваў міліцыю са святам

**У панядзелак, 5 лютага, сябры Гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту на чале з Вадзімам Саранчуковым, павіншавалі супрацоўнікаў Ленінскага райаддзела міліцыі горада Гродна са святам беларускай міліцыі.**

- Вы заўсёды былі з намі, калі паўставала пытанне абароны дэмакратыі правоў чалавека, - адзначылі маладафронтаўцы ў віншавальным лісце, які ўрачыста перадалі дзяжурнаму аддзела.

Павіншавацъ са святам міліцыянтаў Ленінскага РАУСу Малады Фронт вырашыў невыпадкова. Менавіта на тэрыторыі «ленінцаў» адбываюцца ўсе самыя значныя акцыі пратэсту, што арганізоўвае ў Гродне апазіцыя.

Акрамя пажаданняў моцнага здароўя, дабрабыту, высокіх прафесійных дасягненняў, сябры Маладога Фронту выказалі гарадзенскім міліцыянтам словы захаплення:

- Прынцыповасць, з якой вы выконвалі сваю працу, адданасць прысязе і беларускаму народу заўжды выклікала ў нашых вачах бляск гонару за гарадзенскую міліцыю, - было напісана ў маладафронтаўскім віншаванні.

**Павал Мажэйка**

## Закрыты прыпынак ля Тонкасуконнага камбіната

**Прыпынак гарадскога транспарта «Тонкасуконны камбінат» часова зняты з маршрута.**

З 5-га па 19-е сакавіка газавая служба горада рамантуе каля яго газаправодную трубу. Рамонтныя работы даволі маштабныя, таму паводле рашэння гарвыканкама, прыпынак закрылі. Начальнік Тралейбуснага упраўлення Гродна запэўнівае, што на расклад руху гэта ніяк не паўплывае: «Трыццаць секунд нічога не вырашаюць».

**Алеся Сідлярэвіч**




**7, 8 сакавіка** - воблачна, з праясненнямі, без ападкаў, вецер паўднёва-заходні, 4-9 м/с. Тэмпература паветра 7 сакавіка ўначы -1...-6, удзень +2...+7, 8 сакавіка ўначы -3...-5, удзень +4...+9.



Шостага сакавіка. Сквер на плошчы Савецкай. Самы цэнтр Гродна. Другі дзень камунальныя службы не звяртаюць увагі на паваленае снегападам дрэва. Мабыць, вылучаюць дэлегатаў на ІІ Усебеларускі сход у падтрымку Лукашэнкі...

## На Гродна наляцеў снегапад

**Прачнулася зранку пятага сакавіка, паглядзела ў акно і ахнула. Сапраўдная снежная казка! Велізарныя белыя сумёты вымалёўваліся хвалямі на фоне цагляных дамоў. Цяжка прагінаюцца галіны дрэваў пад снежнымі карункамі. Даўно ўжо ў гарадзенцаў не было такой зімы. Тым больш у сакавіку. У ноч з чацвёртага на пятае сакавіка нас «заваліла снегам». Прынёс яго цыклон, які прыйшоў на Беларусь з захаду.**

Паводле зводкі Метэацэнтра, за адну ноч у Гродне выпала тры міліметры ападкаў, а таўшчыня снегу вырасла да 10 сантыметраў.

Цыклон прынёс нам не толькі дзівосныя зімовыя малюнкі. Пад цяжарам снегу не вытрымалі старыя дрэвы. Ля прыпынку на плошчы Савецкай проста на пешаходны тратуар абвалілася старое спарахнелае дрэва. На шчасце, яно нікога не зачапіла. На момант выхаду газеты, у аўторак, дрэва яшчэ ляжала ў цэнтры горада. Ніхто нават не падумаў яго прыбраць.

Не падрыхтаваліся, як звычайна, да снегападу дворнікі ды дарожная служба горада. Некаторым гарадзенцам давялося выбірацца з пад'езда, правальваючыся ў снег па калена, і хлюпаць пасля па вадзяных дарогах.

Не абыйшлося без аварыі. Некаторыя сцвярджаюць, што новае надвор'е стала прычынай пашкоджання тралейбуснай лініі на праспекце Касманаўтаў: пад цяжарам мокрага снегу правіслі і расцягнуліся тралейбусныя правады.

Зараз мы знаходзімся ў вобласці антыцыклона. У ноч на шостае сакавіка падняўся атмасферны ціск, і зранку надвор'е праяснілася. Да дзевятага сакавіка у нас будзе яснае і цёплае (+4...+9 градусаў па Цэльсію) надвор'е.

- Але сакавік - месяц непрадказальны, - гаворыць супрацоўніца гарадзенскага метэацэнтра. - Таму да нас яшчэ могуць вярнуцца халады.

**Алеся Сідлярэвіч**

## Рускія фашысты супраць нумерацыі

**У Гродна масава распаўсюджваецца газетка-улётка «Голас веры». У верхнім куточку газеты стаіць штамп «Русское Национальное Единство (А.П. Баркашова)». У «Воззвании к белорусскому народу», што змешчанае ў газэтцы, баркашоўцы пратэстуюць супраць пазначэння ў беларускіх пашпартах пажыццёвага нумару ўладальніка. Маладзёны, якія раздаюць газетку каля праваслаўнага сабору па вуліцы Ажэшкі гавораць, што гэта выданне епархіі.**

Айцец Аляксандр Велісейчык запэўніў ПАГОНЮ, што Гарадзенская Епархія не мае аніякага дачынення да выдання і распаўсюджвання гэтай улёткі:

- На тэрыторыі нашай епархіі выдаецца толькі газета «Гродзенскія епархіяльныя ведамасці», і яшчэ адна нашая суполка выдае газету «Праваслаўны веснік».

У выходных дадзеных фашыстоўскага «Голаса веры» пазначана, што улётка друкуецца ў Расеі.

**Ул.інф.**

## У Гродна зноў завітае гурт NRM

**10 сакавіка ў Гродне з двухгадзінным канцэртам выступіць гурт NRM. Ён заспявае свае найбольш папулярныя старыя і новыя песні. Нядаўна NRM гастраляваў па Беларусі ў рамках праекту «Вольныя танцы». Атрымаўшы Рок-карону і саступіўшы просьбам прыхільнікаў, NRMаўцы вырашылі зноўку адправіцца ў турнэ.**

- У музыкаў ёсць жаданне граць, а ў нас іх «пракатваць». Калі справа пойдзе ўдала і надалей, думаю, раз у чатыры месяцы канцэрт NRM - цалкам магчымы, - гаворыць арганізатар канцэрта, дырэктар канцэртнага агенцтва «Лінія гука» Уладзімір Шаблінскі.

Канцэрт распачнецца а 19-й гадзіне ў канцэртнай зале Гарадзенскай філармоніі, што па вуліцы Савецкай. Квіткі прадаюцца ў касах філармоніі і каштуюць дзве з палавай тысячы рублёў.

**Алеся Сідлярэвіч**

## Міліцыянты замярзаюць на вуліцах. П'яныя

**Чацвёртага сакавіка беларуская міліцыя адзначыла сваё прафесійнае свята. У Гродне супрацоўнікі міліцыі прайшліся парадам па цэнтральных вуліцах горада. Міліцыянты, на чале з генерал-маёрам Анатолем Белашэўскім, ішлі па амаль пустых гарадзенскіх вуліцах.**

Жыхары Гродна, асабліва не распешчаныя масавымі відовішчнымі мерапрыемствамі, гэтым разам праігнаравалі і міліцэйскі аркестр, і прысягу, у тэксце якой новыя міліцыянты, між іншым, кляліся служыць беларускаму народу. Не зацікавіла гарадзенцаў і ламанне азбесту амонаўскімі галовамі. Сёння беларускія міліцыянты здольныя, здаецца, выклікаць толькі два пачуцці. Смех - з выгляду дзябёлага маладзёна, які толькі ўчора апрануў форму і ўжо круціць дубінкай, ведаючы, што валодае амаль бязмежнай уладаю. Другое пачуццё - гэта злосць, якая ірвецца вонкі, калі тыя самыя дзябёлыя маладзёны з пагонамі, што вывучылі на памяць слова «план» і цягнуць у райаддзелы ўсіх, каму можна хаця б што-небудзь «прышыць». На гэтым тле сапраўдныя таленавітыя прафесіяналы папросту губляюцца.

*«...старшы лейтэнант міліцыі, камандзір баявой групы «Алмаз», знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, некалькі разоў стрэліў з замацаванай за ім табельнай зброі ў сяржанта міліцыі... ад атрыманых ранаў сяржант памёр, акрамя гэтага былі параненыя яшчэ тры супрацоўнікі міліцыі...»*

*«...участковы інспектар, старшы лейтэнант міліцыі смяротна параніў сваю цешчу...»*

*«... малодшы сяржант, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення...вываліўся з акна лесвічнай пляцоўкі шостага паверха свайго дома і загінуў»*

У мінулым годзе 10,3 працэнта ад агульнай колькасці асабовага складу супрацоўнікаў органаў унутраных справаў Беларусі былі прыцягнутыя да крымінальнай, адміністрацыйнай альбо дысцыплінарнай адказнасці. Міліцыянтамі ўчынена 116 злачынстваў, сярод іх - чатыры наўмысных забойствы, сем цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Гарадзеншчына па гэтым паказчыку займае адно з лідзіруючых месцаў - 22 злачынствы, адказнасць за якія панеслі супрацоўнікі міліцыі. У святле гэтых лічбаў яшчэ больш засмучае той факт, што да адказнасці прыцягваліся 149 (кожны чацвёрты!) начальнікаў альбо намеснікаў аддзелаў міліцыі.

Статыстыка бездакорна сведчыць: міліцыянты не толькі ўчыняюць злачынствы, яны яшчэ і замоўчваюць злачынствы іншых. За перыяд 2000 года зафіксавана 637 утоеных міліцыянтамі ад уліку і праверкі заяваў ды паведамленняў грамадзянаў. Гэтая лічба павялічылася больш як удвая. 3781 крымінальная справа была распачата пракурорамі па так званаму «адказнаму» матэрыялу. Гэта значыць, што адпаведныя органы міліцыі не знайшлі альбо не захацелі знайсці ў гэтых справах крыміналу.

У мінулым годзе 30 чалавек, якія з той ці іншай прычыны былі дастаўленыя ў міліцыю, загінулі ў пастарунках. З іх чатыры скончылі жыццё самагубствам.

Што датычыцца суіцыдаў сярод саміх міліцыянтаў - іх колькасць уражвае. З 39-ці міліцыянтаў, што загінулі ў 2000 годзе па-за службай, 16 альбо 40 працэнтаў скончылі жыццё самагубствам. Прычыны самыя штодзённыя: сямейныя сваркі, рэўнасць, надзвычайная нагрузка на працы і п'янства.

Паводле звестак, распаўсюджаных Міністэрствам унутраных справаў Беларусі, за п'янства ў мінулым годзе пакарана 720 міліцыянтаў. Пры гэтым, найбольш міліцыянтаў, якія «закладваюць за пагоны», - у аддзелах Камітэта па выкананні пакаранняў. За імі ідзе, відавочна, пад уражаннем міліцэйскіх п'янак у папулярных расейскіх тэлесерыялах, беларускі крымінальны вышук (колькасць пакараных за ўжыванне алкаголю вырасла на 35 працэнтаў).

Пасля буйных «пасідзелак», у мінулым годзе замерзлі на вуліцах два міліцыянты, яшчэ трох згубілі сваю зброю. П'янымі міліцыянтамі здзяйсняецца кожнае чацвёртае дарожна-транспартнае здарэнне з удзелам супрацоўнікаў міліцыі.

У бок ПАГОНІ часта сыплюцца дакоры з боку міліцэйскіх чыноў. Маўляў, пішаце пра нас немаведама што і не заўважаеце тыя добрыя справы, якія мы робім для насельніцтва.

Мы з вялікай пашанай ставімся да міліцыянтаў, якія сумленна выконваюць свой абавязак і не прымушаюць сумнявацца ў словах міліцэйскай прысягі. Такіх людзей, безумоўна, дастаткова ў беларускай міліцыі.

Нас засмучае іншае. Кожны дзесяты міліцыянт, а гэта толькі дадзеныя Міністэрства ўнутраных справаў, якое, зразумела, не зацікаўлена выносіць усе факты на грамадскі суд, - злачынца альбо патэнцыйны парушальнік правапарадку.

**Антон Клёк**

# Час працаваць, а не спрачацца

**Выбаршчык Алесь Крэмень надрукаваў допіс «Стратэгія адзінага кандыдата - глупства ці гульня ў паддаўкі?» (ПАГОНЯ, ад 1 сакавіка 2001 года). Ён выказаў меркаванне, што вылучэнне адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад шырокай народнай кааліцыі - справа невырашальная.**

Паводле аўтара допіса, разумна зрабіў Сяргей Гайдукевіч, які зразумеў, што на яго стаўку рабіць не будуць і выйшаў з кола дэмакратычных прэтэндэнтаў. Гэта, на маю думку, паказчык слабасці лідара беларускіх ліберальных дэмакратаў. І яшчэ яго амбітнасць. Чаго каштуюць заявы спадара-таварыша Сяргея аб усенароднай падтрымцы яго персоны. Выбары ў так званую Палату прадстаўнікоў паказалі рэйтынг гэтага палітыка. У Менску падтрымка не знойдзена. Не верыцца ў нібыта 30-тысячную колькасць ЛДПБ. На Гарадзеншчыне афіцыйныя дадзеныя сведчаць пра наяўнасць такіх структураў толькі ў Лідзе і двух раённых цэнтрах. Не разгонішся...

Аднак, у нататцы Алеся Крэменя не гэта галоўнае. Ціхенька падкідваецца меркаванне, што «новая справа робіцца толькі новымі людзьмі». Мімаходзь на шляху да гэтага «адкрыцця» гучыць крытыка цяперашняй тройкі асноўных прэтэндэнтаў - Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша і Паўла Казлоўскага. Маўляў, усе яны - вылучэнцы старой сістэмы. Супраць іх дастаткова знойдзецца «палітычнага ці крымінальнага» кампрамату, каб датэрмінова выкінуць іх з перадвыбарнай гонкі.

Што ж застаецца? Падтрымаць новых людзей. У гэтым асноўны сэнс выказвання Алеся Крэменя. Заклік нагадвае папулісцкія лозунгі Сяргея Гайдукевіча. Словаў многа, гучаць, як барабанны грукат, а здаровага сэнсу няма. Мяркуйце самі. Праз месяц будуць прызначаны прэзідэнцкія выбары. Хутчэй за ўсё, яны пройдуць 23 верасня. Хаця ёсць і больш ранні варыянт - восьмага ліпеня. Гэтыя лічбы вынікаюць з Выбарчага кодэксу Беларусі.

Палітык не з'яўляецца за адну ноч. Гэта не кінаактор зорнай ролі: ранкам прачнуўся папулярнай асобай. Палітычны дзеяч набывае вядомасць праз барацьбу з апанентамі, кіруе грамадскімі арганізацыямі і партыямі. Часцяком займае пасады ва ўладных структурах. З ім паступова звязваюць надзеі мільёны грамадзянаў.

Што ў нас? Зараз вядомыя прозвішчы 11-ці прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта - Міхаіл Чыгір, Павел Казлоўскі, Сямён Домаш, Уладзімір Ганчарык, Сяргей Калякін, Валерый Леванеўскі, Сяргей Антончык, Сяргей Гайдукевіч, Зянон Пазьняк, актор Крыжаноўскі і Аляксандр Лукашэнка.

Магчыма, спіс папоўніцца. Аднак, беларускія аналітыкі мяркуюць, што ўжо вылучыліся два асноўных цэнтры - вакол Сямёна Домаша і Уладзіміра Ганчарыка. Нехта з іх, мажліва, будзе абраны адзіным кандыдатам у прэзідэнты ад шырокай дэмакратычнай кааліцыі.

Што да «вылучэнцаў старой сістэмы», паводле спадара Алеся Крэменя, то дзе ён пабачыў на Беларусі новую? Чаму трэба крытыкаваць мінулыя заслугі і былыя пасады пэўных палітыкаў? Гэта ж кіраўнічы досвед, веданне кадраў, шырокая падтрымка кіруючых работнікаў, уменне вырашаць праблемы, пэўны імідж. Хіба невядомыя нікому «новыя людзі» (накшталт новых беларусаў?) здолеюць набыць гэтыя якасці за месяц да абвяшчэння выбараў? Няхай папрацуюць, пакажуць сябе ў канкрэтнай дзейнасці, пройдуць грамадскую «раскрутку». Камсамольскі запал не пашкодзіць любому палітыку, аднак ужо не той час, калі адразу з канапель можна заскочыць у прэзідэнцкае крэсла.

**Антон Лабовіч**

# Мытнікі абшуквалі Сямёна Домаша дзьве гадзіны

**Дзьве гадзіны цягнуўся асабісты дагляд вядомага палітыка Сямёна Домаша на памежным пункце Брузгі.**

27 лютага на памежным пункце Брузгі быў затрыманы аўтамабіль, на якім у камандзіроўку ў Польшчу накіроўваўся адзін з магчымых кандыдатаў на сёлетніх прэзыдэнцкіх выбарах, кіраўнік аб'яднаньня «Рэгіянальная Беларусь» Сямён Домаш.

На працягу дзьвюх гадзінаў праводзіўся асабісты дагляд вядомага палітыка і ягонага транспартнага сродку. У выніку, як пазначана ў пратаколе, «была досмотрена верхняя одежда, нательное бельё и обувь гр. Домаша С.Н.». Асобна ў пратаколе было пазначана, што «беседа велась на русском языке, которым гр. Домаш владеет свободно».

«В результате личного досмотра гр-на Домаша С.Н., вещей, запрещённых и ограниченных к перемещению через таможенную границу РБ, не обнаружено».

# Чахольскага таксама «прашманалі»

**Раніцай 2 сакавіка, па вяртанні з Варшавы, сакратар Управы Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі - БНФ Алесь Чахольскі быў затрыманы супрацоўнікамі мытні ў Берасьці. Мытнікі пратрымалі спадара Чахольскага тры гадзіны ў мытнай зале, дзе зрабілі агляд ягоных рэчаў і канфіскавалі 745 паасобнікаў часопіса «Беларускія Ведамасьці». Быў складзены пратакол, справа будзе перададзена ў суд. Часопіс кваліфікаваны як «матар'ялы, якія пагражаюць палітычнаму ладу Рэспублікі Беларусь».**

У спадара Чахольскага склалася ўражаньне, што ён знаходзіцца не на беларускай мяжы, сустракаецца не з беларускімі мытнікамі, а патрапіў на мытную службу расейскай імпэрыі. На ягоныя патрабаваньні зьвяртацца да яго на дзяржаўнай беларускай мове службовыя асобы рэагавалі адмовай у зьдзеклівай форме. Ня было прадстаўлена аніводнага афіцыйнага дакументу, аніводнага бланку на беларускай мове. Калі мытнікі прапанавалі яму падпісаць дакументы, спадар Чахольскі адмовіўся зрабіць гэта, матывуючы адмову тым, што паперы запоўнены не па-беларуску. Дарэчы, службовыя асобы ўпарта не называлі свае прозьвішчы і толькі з пратаколу стала вядома, што рабіў затрыманьне старшы інспэктар Сьцяпан Васільевіч Кузьміч. Спадар Чахольскі мае намер падаваць сустрэчны спасылак у суд, каб дамагчыся вяртаньня канфіскаваных часопісаў.

**Ул. інф.**

# Гарадзенцы вывучалі выбарчае права

**У суботу, трэцяга сакавіка, у Гродне ў межах праекту «Навучанне грамадзянаў выбарчаму праву» адбыўся семінар, у якім узялі ўдзел 50 прадстаўнікоў палітычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў нашай вобласці. Навучанне гарадзенцаў праводзілі Сяргей Альфер, сябра кіраўніцтва Беларускага цэнтра канстытуцыяналізму і Міхаіл Чудакоў, прафесар Акадэміі кіравання, суддзя Канстытуцыйнага суда Беларусі ў адстаўцы.**

Прысутныя прынялі ўдзел у абмеркаванні адпаведнага заканадаўства краіны, стадыяў і этапаў выбарчага працэсу прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2001 года.

Падчас разнастайных дыскусіяў найбольшую цікавасць выклікала пытанне, як паставіцца новаабраны дэмакратычны Прэзідэнт да цяперашняй чыноўніцкай эліты. Міхаіл Чудакоў адзначыў, што распрацаваная выбарчая стратэгія дазваляе быць упэўненым - ніводзін чыноўнік, які працуе пры Лукашэнку, не будзе падвергнуты рэпрэсіям з боку новай улады.

Удзельнікі семінара атрымалі адказ і на пытанне, якім будзе развіццё сітуацыі, калі Усебеларускі сход, прызначаны Аляксандрам Лукашэнкам на травень «папросіць» яго заставацца прэзідэнтам і надалей.

Эксперты гарадзенскага семінара адзначылі, што просьбы застацца, звернутыя да Лукашэнкі, безумоўна, будуць.

Аднак статус сходу не мае аніякай юрыдычнай моцы прымаць такія рашэнні. А працягнуць сабе тэрмін прэзідэнцтва Лукашэнка не мае права нават сваімі ўлюбёнымі рэферэндумамі.

Таму, галоўнае цяпер - правільна прагаласаваць.

**Іван Паўлёнак, Антон Лабовіч**

# Праблемы адноўленай сацыял-дэмакратыі

**(Да 10-годдзя ўтварэння Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады)**

**2-3 сакавіка 1991 года актавая зала Дома літаратараў поўнілася людзьмі, поўнілася надзеямі. Надзеямі на адраджэнне ў краіне шматпартыйнай сістэмы, беларускай сацыял-дэмакратыі, пачатак якой пакладзены слыннымі дзеячамі Беларускага Адраджэння яшчэ ў пачатку ўжо мінулага стагоддзя. Беларуская Рэвалюцыйная Грамада, а таксама яе пераемніца Беларуская сацыялістычная Грамада ў свой час заклалі трывалы падмурак утварэння беларускай дзяржавы. Ідэя беларускай дзяржаўнасці панавала ў сэрцах і душах людзей, што ў снежні 1990 года стварылі аргкамітэт па адраджэнні БСДГ.**

Гэтую ідэю падтрымалі ў многіх гарадах ды мястэчках рэспублікі, і на першы з'езд сышліся 154 дэлегаты. Да першага партыйнага прызыву належыць інтэлект нацыі, яе гонар. Гэта яе першы старшыня, доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў, гісторык Міхась Чарняўскі, філосаф Анатоль Сідарэвіч, паэты Анатоль Вярцінскі ды Сяргей Законнікаў і многія іншыя. У яе шэрагах было 12 дэпутатаў тагачаснага Вярхоўнага Савета і было слушна апраўдана, што БСДГ - партыя парламенцкага кшталту, левацэнтрысцкага накірунку і мае на мэце абарону працоўнага чалавека.

Якія памкненні, якія жаданні! Ды ніякага палітычнага досведу. У чарговы раз нацыянальнага Адраджэння і набыцця дзяржаўнасці, уласнай самастойнасці ды незалежнасці спатыкнуліся на гэтых вострых камянях. Толькі новай беларускай сацыял-дэмакратыі давялося вырашаць больш цяжкія праблемы, што ўзніклі на яе шляху. Нечаканая смерць аднаго з арганізатараў партыі, яе першага старшыні Міхася Ткачова, востра ўзняла пытанне лідарства. Менскі інтэлект, які напраўду ўмеў выпрацаваць правільнае партыйнае рашэнне ці ўдакладніць тэкст рэзалюцыі, не змог адразу са сваіх шэрагаў вылучыць хаця б аднаго дзейснага прадстаўніка на пасаду кіраўніка партыі. І асобныя групоўкі сталі прапаноўваць тое крэсла рэгіянальным лідарам.

Чарговы партыйны з'езд зацвердзіў існуючае «статус кво» - абраў на пасаду кіраўніка партыі аднаго з намеснікаў Міхася Ткачова, дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, археолага, кандыдата гістарычных навук Алега Трусава.

Самастойная ды незалежная Беларусь рабіла першыя крокі ў накірунку да дэмакратыі. У гэтым жа кірунку дзейнічала і партыя, што дэкларавала, апроч вышэйзгаданых пастулатаў, ахвяраваць свае памкненні ў абароне працоўных. І паколькі ў тыя гады дзейнічаў дэмакратычны парламент, што адпавядаў тагачаснаму размеркаванню палітычных сілаў у грамадстве, то і партыя парламенцкага кшталту мела адпаведны поспех. Яе ведалі, яе падтрымлівалі, пра яе гаварылі і пісалі. У грамадстве адчувалася яе ўплывовасць. Быў час - была эпоха. Універсальнасць паэтычных словаў цудоўна пасуе і да гэтага моманту.

Свабодныя дэмакратычныя выбары першага прэзідэнта на Беларусі далі сумныя вынікі. Яны засведчылі, што наша грамадства яшчэ не засвоіла нават першапачатковых асноваў дэмакратыі. Час запатрабаваў змяніць тактыку дзеянняў. Час паклікаў на плошчу. Усім нам бачылася, што толькі там здолеем супрацьстаяць дыктатарскім памкненням кволага тутэйшага дыктатара. І гэта адпавядала ісціне. А паколькі тое разумелі многія ў партыі, то як вынік жадання зменаў, на чарговым з'ездзе быў абраны новы старшыня. Ім стаў падпалкоўнік запасу Мікола Статкевіч. Пасля гэтага партыя і яе новы лідар патрапілі ў хроніку беларускага тэлебачання - з рэпартажаў пра антыпрэзідэнцкія акцыі.

Паколькі на Беларусі існавала некалькі партыйных утварэнняў сацыял-дэмакратычнага накірунку і ўсе яны былі малаколькасныя, то ідэя іх аб'яднання была самай актуальнай. На такі захад наважылася Партыя Народнай Згоды. І ў чэрвені 1996 года адбыўся аб'яднаўчы з'езд БСДГ ды ПНЗ. Партыя адносна пашырылася, набыла некаторую колькасць новых сябраў, але страціла былы інтэлект, які пазней аб'яднаўся ў новую сацыял-дэмакратычную партыю, але са старой назвай. І на дзіва ўсім, яе ўзначаліў Станіслаў Шушкевіч. Пасля смерці Міхася Ткачова ўступіць у шэрагі БСДГ і ўзначаліць яе атрымаў прапанову сярод іншых і Станіслаў Станіслававіч. Тады ён катэгарычна адмовіўся мець хоць нейкія стасункі з любой партыяй. Яму хацелася быць вольным, незалежным палітычным стралком, не зважаючы нават на тое, што гэтая партыя поўным сваім складам працавала на яго падчас першых прэзідэнцкіх выбараў у РБ. І на гэта сапраўды варта заплюшчыць вочы, бо ў Рэспубліцы Беларусь і па сённяшні дзень існуе некалькі партыяў гэтага накірунку.

Першапачатковай еднасцю Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) была да таго часу пакуль частка яе кіраўніцтва, у якую ўвайшлі былыя старэйшыя афіцэры, прамалінейна, па-вайсковаму, не стала на свой манер раўняць шэрагоўцаў: гісторыкаў, філосафаў, пісьменнікаў, прафсаюзных дзеячаў па спрадвечнаму вайсковаму прынцыпу: зважай і выконвай, што я скажу. Ідэолагам партыі сацыял-дэмакратычнага накірунку на Беларусі становіцца былы вайсковы зампаліт Уладзімір Нісцюк, які падчас мінулых прэзідэнцкіх выбараў быў каардынатарам выбарчага штаба Аляксандра Лукашэнкі па Гарадзенскай вобласці. Урэшце рэшт, тое нічога не значыла б, каб не захады апошняга часу гэтага партыйнага кіраўніцтва. Чарговы партыйны з'езд прымае рашэнне аб няўдзеле ў выбарах у лукашэнкаўскую «палатку». Наступны пленум ЦК пад націскам асабіста Мікалая Статкевіча дае магчымасць удзелу ў псеўдадэмакратычных гульнях дыктатара сваім шэрагоўцам. Партыйнае кіраўніцтва, не зважаючы на статут, лічыць сябе шэрагоўцамі ды імкнецца на выбары. Вынік тых памкненняў сумны - ніхто не абраны. Партыя становіцца аб'ектам насмешак і непрыстойных выказванняў з боку як сябраў апазіцыі, так і простых людзей. І ў гэтым ёсць доля справядлівасці, бо падчас гульні, што мела назву «выбары ў Палату», штаб-кватэра партыі ператварылася ў выбарчы штаб яе старшыні. Тут не гучыць ні адно беларускае слова, тут не абмяркоўваюць спрадвечных пытанняў сацыял-дэмакратыі, якая кіруе амаль што ўсёй Еўропай - абарона інтарэсаў рабочага чалавека. Жаданне асабіста пакрасавацца ў непрызнаным нікім парламенце пераважае больш за ўсё астатняе. У супрацьвагу такім дзеянням кіраўніцтва, з тае сумнае нагоды была створана фракцыя «За адзінства». Адзінства не здзейснілася, распачалася ўнутрыпартыйная барацьба. Пэўна, не хоча еднасці і яе старшыня, бо зноў жа рушыў на выбары ў непрызнаны сусветам лукашэнкаўскі парламент.

Свой дзесяцігадовы юбілей адноўленая беларуская сацыял-дэмакратыя сустракае на пераломе. Але хаваць яе рана і не варта. Не варта, паколькі зямля беларуская існуе і будзе існаваць дзякуючы працы простага чалавека, а таму заўжды будзе існаваць неабходнасць абароны яго інтарэсаў. І гэтая неабходнасць рана ці позна прымусіць палітыкаў адкінуць убок свае хцівыя інтарэсы ды аб'яднацца дзеля святой ісціны: працай жыве чалавек.

Першы крок у гэтым накірунку быў зроблены дзесяць гадоў таму.

**Язэп Палубятка, старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі БСДП (НГ)**




**Пераможцай альтэрнатыўнага конкурсу прыгажосці «Міс Гродна-2001», які прайшоў трэцяга сакавіка ў Палацы культуры хімікаў, стала Тацццяна Антановіч. Вольга Ханевіч атрымала тытул «Віцэ-міс Гродна-2001», Юлія Мачульская - «Міс Чароўнасць», Аляксандра Грыцкевіч стала «Міс Грацыя».**

***- Сёлетні конкурс прыгажосці адрозніваецца ад леташняга больш яркай сцэнічнай праграмай. Ён быў больш арыентаваны на шоу,*** **- гаворыць арганізатар конкурсу, дырэктар мадэльнага агенцтва «Мілена» Ігар Мікуліч.**

**Усе ўдзельніцы конкурсу падпісалі з агенцтвам «Мілена» кантракты тэрмінам на адзін год. Акрамя гэтага, іх чакала яшчэ адна прыемная рэч: прыгажуні атрымалі каштоўныя падарункі. Але прызоў аказалася не так шмат, як хацелася б: спонсары не праявілі вялікай актыўнасці. Ігар Мікуліч тлумачыць гэта тым, што конкурс не набыў яшчэ шырокай вядомасці.**

**Алеся Бяленік**

**Фота А. Чаркасава**

**На здымку (злева направа): Аляксандра Грыцкевіч, Тацццяна Антановіч, Вольга Ханевіч**

# Гарадзенцы дабіраліся на працу на «КрАЗе» ды «КамАЗе»

**Зранку ў панядзелак, 5 сакавіка, многім гарадзенцам давялося спазніцца на працу ды вучобу. З 6.30 да 10.00 на праспекце Касманаўтаў быў спынены рух тралейбусаў. Аварыя адбылася з-за перагарання тралейбуснага праводу. У Гродне даволі часта здараюцца падобныя паломкі, але такога «буйнога выпадку», паводле словаў намесніка начальніка тралейбуснага ўпраўлення горада Юрыя Нерада, не было даўно.**

Каля 200 метраў тралейбуснага праводу паміж прыпынкамі «Вуліца Пераможная» і «Усход» ляжала на зямлі. У першыя хвіліны аварыі спыніліся прыкладна 40 тралейбусаў. На яе ліквідацыю тралейбуснае ўпраўленне мабілізавала ўвесь свой патэнцыял буйных аўтамашынаў - па аднаму «КрАЗу» і «КамАЗу». Яны перацягвалі тралейбусы да спраўных лініяў. Склаўшы на даху «вусікі» і выстраіўшыся ўздоўж дарогі, тралейбусы чакалі сваёй чаргі. А збянтэжаныя пасажыры на прыпынках ля кінатэатра «Усход» і аўтавакзала разгублена глядзелі, як міма іх, не спыняючыся, праязджалі на буксіры да педвучэльні доўгачаканыя тралейбусы. Праўда, па маршруту «Азот» - плошча Савецкая» пусцілі два дадатковыя аўтобусы.

Чаму перагарэла тралейбусная лінія, дакладна пакуль не вядома. Але спадар Нерад мяркуе, што «нейкі аўтамабіль вёз на сабе буйны прадмет, зачапіў провад і расцягнуў яго».

- Провад станавіўся ўсё танчэй і танчэй, урэшце рэшт перагарэў, - тлумачыць ён.

Нягледзячы на тое, што тралейбусы прастаялі тры з паловай гадзіны, спадар Нерад лічыць, што такая сур'ёзная аварыя была ліквідавана даволі хутка.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Даляглядзы ананімных алкаголікаў

**Чацвёртага сакавіка ў Менску адбыўся працоўны сход Інтэргрупы для стварэння Камітэта па арганізацыі XI канферэнцыі Руху ананімных алкаголікаў у Беларусі, якая мае адбыцца 17 сакавіка. На канферэнцыі плануецца абмеркаваць надзённыя праблемы суполак ананімных алкаголікаў у Беларусі, скаардынаваць іх дзейнасць і арганізаваць распаўсюджванне тэматычнай літаратуры.**

Ужо трэці год у Гродне дзейнічае суполка ананімных алкаголікаў «Далягляд», якая дапамагае сваім сябрам пазбавіцца ад алкагалізму як цяжкай і небяспечнай хваробы. У мінулую нядзелю мяне, як журналіста, запрасілі на сход гэтай суполкі.

...У невялічкай сталоўцы для бедных, якая месціцца ў памяшканні былога Брыгідскага кляштара, адчуваўся водар свежазапаранай кавы. Прыходзілі ветлівыя мужчыны і жанчыны рознага ўзросту. Ствралася ўражанне, што будзе адзначацца чыйсьці Дзень народзінаў. На стале, засцеленым белым абрусам, хутка з'явіўся торт, разнастайнае печыва, кава і гарбата. Нехта запаліў свечку, і ўсе прысутныя ля стала прамовілі супольную малітву. Зачытваліся таксама 12 правілаў і 12 традыцыяў ананімных алкаголікаў. Пасля некаторыя, называючы сваё імя і прызнаючыся, што яны алкаголікі, распавялі свае гісторыі.

<u>**АЛЕНА:**</u> - Я пачула пра Рух ананімных алкаголікаў ужо ў шпіталі ў Белым Балоце, куды трапіла пасля працяглага запою. Мой бацька быў алкашом, і я рана пачала выпіваць. У 18 гадоў ніхто са знаёмых мяне не разумеў і не жадаў дапамагчы. Я чытала адпаведную літаратуру, але гэта ўратавала ад залежнасці толькі на кароткі час. Хутка зноў пачаўся месячны запой. У «Далягляд» я патрапіла, калі пасля кадзіроўкі не піла ўжо восем месяцаў. І вось зараз, дзякуй Богу, і сябрам па суполцы, не п'ю год і восем месяцаў...

<u>**ІВАН:**</u> - Некалі скончыў мараходку, займаўся боксам. Былі перспектывы. І вось патрапіў у залежнасць ад спіртнога. Знаходзіўся на ўліку ў наркалогіі, двойчы кадзіраваўся, лячыўся іголкаўколваннем. Але не мог пратрымацца больш за тры месяцы і ўваходзіў у запой. І, пакуль не патрапіў у «Далягляд», не бачыў выйсця з сітуацыі. Калі я страчу сяброў, я згублю сябе...

<u>**ЮРА:**</u> - У юнацтве піў віно. Звычайна, як і ўсе хлопцы, перад танцамі. Паступіў у вайсковую вучэльню, дзе надта не разгулешся, бо дысцыпліна! А як пачаў служыць у Расеі, дык пайшло і паехала. Там жа, калі не п'еш, цябе не паважаюць. Не праставіш - не прасунешся па кар'ернай лесвіцы. Ледзьве звольніўся з войска. Лячыўся ананімна, кадзіраваўся толькі на год. Маўляў, пацярплю, а потым буду ўжываць у меру. Не разумеў, што гэта хвароба. Варта толькі пачаць - і ўсё паўторыцца. Патрапленне ў суполку - мой другі Дзень народзінаў. Тут я знайшоў душэўны спакой...

Прагучалі на сходзе і іншыя гісторыі. Найбольш загадкавай сталася гісторыя Тамары, якая ў тую нядзелю і адзначала свой Дзень народзінаў. Яна паказвала сямейныя альбомы са здымкамі сваіх бацькоў, дзяцей і ўнукаў. Цяжка было ўявіць, як яна, дачка праваслаўнага і высокамаральнага святара з Курска патрапіла ў алкагольную залежнасць. Але, дзякуй Богу, у суполцы «Далягляды» знайшла свой другі дом.

Як жа лечацца ананімныя алкаголікі? Праграма дзеяння ўсіх суполак пабудавана на тым, што кожны алкаголік толькі выйграе ад непасрэднага кантакту з іншымі алкаголікамі ў межах мясцовай групы. Гэта дапамагае яму разабрацца не толькі ў тым, што з ім адбываецца, але і як з гэтым змагацца. Ананімныя алкаголікі не павінны «распаўсюджвацца» пра сацыяльны статус ці публічна называць прозвішчы сваіх сяброў. Такім чынам ствараецца спрыяльная атмасфера і пазбаўленне ад комплексу непаўнавартасці. Зразумела, што падчас сустрэчаў у межах суполкі абсалютна выключаецца спажыванне спіртнога і піва.

Унікальнасць суполак ананімных алкаголікаў у тым, што ані на мясцовым, ані на міжнародным узроўні няма статутаў і правілаў, якія б рэгламентавалі абавязковасць наведвання сходаў ці іх перыядычнасць. Каб «уступіць» у групу, не трэба запаўняць анкетаў для сяброўства. Многія суполкі нават не вядуць уліку наведвальнікаў сходаў. Няма ніякіх сяброўскіх складак ці іншых грашовых збораў.

Тым, хто хоча далучыцца альбо больш падрабязна даведацца пра методыку лячэння ад алкагалізму ў суполках ананімных алкаголікаў, варта напісаць на адрас: 220141, Рэспубліка Беларусь, Менск-141, а/с 371.

**Ігар Гандлеўскі**

**<u>Даведка ПАГОНІ:</u> Першае Таварыства Ананімных Алкаголікаў (Alkoholics Anonymous) узнікла ў ЗША ў 1935 годзе ў горадзе Акрон (штат Агаё). Яго́ная методыка пазбаўлення ад алкагалізму вельмі хутка стала папулярнай не толькі ў Амерыцы, але і ў Еўропе. Зараз існуе больш за 68000 суполак у 114 краінах свету. Агульная колькасць Ананімных Алкаголікаў перасягае мільён чалавек.**

**У Гродне першая суполка Ананімных Алкаголікаў пад назваю «Далягляд» («Горизонт») паўстала ў верасні 1998 года і налічвае больш за 25 сталых сяброў. Збіраюцца яны ў дабрачынай сталовай, якая месціцца ў памяшканні былога Брыгідскага кляштара (вул. К.Маркса,25). Другая суполка пад назвай «Дабравесце» («Благовест») стварылася ў снежні 1999 года. Яе сябры збіраюцца ў царкоўным будынку насупраць Пакроўскага сабора (вул. Акадэмічная,2). Увогуле на Беларусі існуе каля 100 суполак Ананімных Алкаголікаў. На Гарадзеншчыне найбольш актыўныя групы ў Дзятлаве, Слоніме і Шчучыне.**

# Гімн абыйдзецца сталіцы ўсяго ў 570 тысяч!

**Першага сакавіка абвешчаны конкурс на стварэнне гімна горада-героя Менска, які будзе доўжыцца да першага чэрвеня бягучага года.**

У конкурсе могуць прымаць удзел як прафесійныя, так і самадзейныя аўтары, работнікі культуры і мастацтва, іншыя грамадзяне Беларусі. Тэкст гімна павінен быць напісаны на беларускай мове, складацца не больш чым з трох куплетаў і адлюстроўваць у сваім змесце «гісторыю горада, яго прыгажосць, захапленне ды любоў да яго». Гімн пішацца для голасу ў суправаджэнні фартэпіяна. У якасці варыянта гімна можа быць выкарыстана музыка У.Алоўнікава «Песня пра Менск» з новым тэкстам, і дадзеная работа будзе разглядацца на агульных умовах.

Падрыхтоўку і правядзенне адборавага тура конкурсных твораў забяспечвае ўпраўленне культуры Менгарвыканкама. Паводле яго́ных вынікаў, упраўленне культуры выносіць шэсць твораў на разгляд рабочай групы Менгарвыканкама па падрыхтоўцы прапановаў адносна гімна горада-героя Менска. Рашэнне рабочай групы наконт канчатковых вынікаў конкурсу выносіцца на разгляд Менскага гарадскога Савета дэпутатаў і Менскага гарадскога выканаўчага камітэта. Пераможцы конкурсу атрымаюць прэміі: першая - 570 тысяч беларускіх рублёў; другая - 399 тысяч рублёў і трэцяя - 285 тысяч рублёў.

На нашу думку, з'яўленне бліжэйшым часам у Менску «сучаснага» гімна будзе надзвычай важнай з'явай ў жыцці краіны. Варта таксама ўзгадаць, што гімна няма не толькі ў сталіцы, але і ў самой дзяржавы. З 27 ліпеня 1990 года - моманту абвяшчэння Дэкларацыі «Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі» - усе ініцыятывы па змене гімна Беларусі (як словаў, так і музыкі), так і застаюцца ініцыятывамі. Паранейшаму, мы - беларусы - стаем, кладземся спаць, святкуем спартовыя перамогі - разам «з братняю Руссю». Аднак, гэты здзек, відавочна, можна будзе вырашыць толькі пры новым прэзідэнце...

**Максім Жмінда**

# Стыхія Сяргея Ламекі - школа

**Пятага сакавіка ў актавай зале сярэдняй школы N18 адбыўся фінал конкурсу «Лепшы настаўнік 2001 года». Першае месца сярод педагогаў школаў Ленінскага раёна Гродна заняў выкладчык гісторыі СШ N3 Сяргей Ламека.**

Разам з ім у фінале змагаліся настаўніца малодшых класаў СШ N18 Жанна Лагвінава ды выкладчыца рускай мовы і літаратуры СШ N28 Вольга Гуліч.

Сяргей Ламека вырашыў стаць настаўнікам яшчэ ў дзяцінстве. Яго дзядуля і маці таксама былі настаўнікамі. Сяргей скончыў гістарычны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта і аспірантуру пры ім. Час ад часу ён выкладае культуралогію ва ўніверсітэце, але ў асноўным працуе ў школе. Нізкі заробак настаўніка не палохае яго:

- Школа - гэта мая стыхія, маё жыццё, мой лёс.

Галоўны дэвіз працы Сяргея Ламекі - «няма кепскіх вучняў, кожны вучань - гэта перш за ўсё Чалавек».

Напрыканцы сакавіка Сяргей Ламека будзе змагацца за званне лепшага настаўніка на абласным конкурсе.



**Лепшы настаўнік Ленінскага раёна Сяргей Ламека**

**Алеся Сідлярэвіч**

# Абноскі з «Сэканд Хэнда» – «дёшево и сердито»!

**Як сцвярджае Дзмітрый Лемяшэўскі, дырэктар сеткі крамаў, якія гандлююць патрыманай вопраткай, 20 працэнтаў гарадзенцаў апранаюцца ў крамах «Second Hand».**

У перакладзе з ангельскай мовы «Sekond Hand» - «другія рукі». Крамы пад такой назвай гандлююць камісійнай вопраткай з Еўропы і ЗША. Пару дзён таму, у дзень новага завозу тавару, я патрапіў у «Sekond Hand» пад назвай «Ліза», што па вуліцы К.Маркса,26 у Гродне. Нягледзячы на тое, што надвор'е было марозным і пад нагамі рыпеў снег, каля крамы ўтварылася чарга чалавек каля 20. І гэта за 30 хвілінаў да адкрыцця крамы!

Да апошняй у чарзе жанчыны невысокага росту, апранутай у сінюю куртку з балоні, падыходзіць высокі дзядуля.

- Я - інвалід Вялікай Айчыннай вайны і пайду без чаргі, - кажа дзед.

З натоўпу даносіцца сіплы мужчынскі голас:

- Я тут ужо паўтары гадзіны мерзну. Табе, дзед, паміраць пара, а ты апранацца прыйшоў.

- Дзядуля, гэта не прадуктовая крама. Ідзіце дамоў, - раіць жанчына.

Дзед, нічога не адказаўшы, моўчкі займае месца ў чарзе.

Нарэшце, крама адчыняецца - і натоўп, штурхаючыся і лаячыся, увальваецца ў памяшканне. Крама плошчаю недзе сем на пяць метраў дзеліцца на тры секцыі: мужчынскую, жаночую і дзіцячую. Акрамя таго, ёсць асобная палічка з абуткам і тканінай.

На паліцах і вешалках - разнастайны асартымент вядучых фірмаў свету. Патрапіўшы ў мужчынскую секцыю крамы, я знайшоў амаль што новыя джынсы фірмы «Levis» чорнага колеру за шэсць тысяч рублёў. Праціснуўшыся далей, я ўбачыў мужчыну гадоў 40, з доўгімі валасамі і бародкаю ў стылі «бітлоў», які выбіраў сабе джынсавую кашулю. Прымасціўшыся каля яго і ўважліва прагледзеўшы майкі і кашулі, я заўважыў майку вытворчасці «Puma», што каштавала 2300 рублёў. А побач з ёю віселі трохі горшыя майкі без цэннікаў, на вагу. Кожную можна было набыць прыблізна за 800 рублёў, бо кілаграм вопраткі каштуе 5500 тысяч ці прыкладна 4,5 даляра.

Накіроўваючыся ў жаночую секцыю, па дарозе я ўбачыў таго дзеда, які прыйшоў апошнім. Пытаюся:

- Дзядуля, а чаму Вы тут апранаецеся, а не ў звычайнай краме?

- На маю хоць і большую, чым у іншых пенсію, я магу апранацца толькі тут. Гэта мая апошняя надзея, - кажа ветэран Вялікай Айчыннай вайны. - Ды і вопратка тут якасная.

У жаночай секцыі дзве прыгожыя жанчыны, відаць, сяброўкі, раяцца - што лепей набыць. У гэтай секцыі бачу як бабуляў-пенсіянерак, так і дзяўчатаў-студэнтак, але ж пераважаюць жанчыны сярэдняга ўзросту з залатымі пярсцёнкамі на руках.

Паступова каля ўваходу ў прымерачную выстраілася чарга. На чале яе - прыгожая стройная жанчына. Яна акуратна пералічвае рэчы і перапісвае кошты на адваротных баках лэйблаў. Заўважае каля сябе падлетка ў дутай балоневай курткы ды шырокіх нагавіцах і, усміхаючыся, пытаецца:

_ Што, ізноў будзеш кошты пералепваць?

- Не, не буду, усё роўна зловіце, - кажа юнак.

Як бачым, ёсць тут і свае героі, якіх добра ведаюць у твар. Чарнявая дзяўчына гадоў 20-ці, супрацоўніца магазіна, міла ўсміхаючыся, правярае сумкі наведвальнікаў.

У Гродне, апрача магазіна «Ліза», ёсць яшчэ вялікі склад «Sekond Hand» у раёне Дзевятоўкі і два буцікі на Паўночным і Скідальскім рынках. Актыўна працуюць яшчэ тры невялічкія крамы з гібкай




сістэмай скідак, што знаходзяцца па вул.Савецкіх пагранічнікаў,56; Янкі Купалы,22а, і Захарава,24а.

Паводле словаў Аляксандра Янулевіча - дырэктара крамы «Ліза», у магазінах, якія належаць фірме «Шанс», апранаецца вельмі розны кантынгент: ад самых заможных, якія прыходзяць у дні паступлення новага тавару, да самых бедных, што прыходзяць у дні распрадажы. А ўсяго - каля 20-ці працэнтаў гарадзенцаў. Вопратка прывозіцца не з усіх краінаў Еўропы, а толькі з Англіі ды Германіі. Яна праходзіць дэзапрацоўку і толькі пасля гэтага паступае ў продаж. Адзін кілаграм адзення каштуе 5500 тысяч беларускіх рублёў. Кошт кожны дзень змяншаецца, а ў апошні дзень распрадажы адна рэч каштуе усяго 50 рублёў.

На пытанне «ці апранаюцца еўрапейцы ў крамах «Сэканд Хэнд» спадар Янулевіч адказаў, што 80 працэнтаў французаў апранаюцца толькі ў такіх крамах, каб зэканоміць грошы на больш карысныя рэчы, чым вопратка. Але ж французскі «Сэканд Хэнд» не параўнаць з гарадзенскім, ды і матывы французаў, як бачым, істотна адрозніваюцца ад памкненняў беларусаў.

**Алесь Зарэмбюк**

# Чым будзем сеяць?

**Існуе небяспека, што сельскагаспадарчы комплекс Гродзенскай вобласці будзе непадрыхтаваным да пасяўной кампаніі.**

На сённяшні дзень забяспечанасць сельскіх гаспадарак вобласці трактарамі складае толькі 75 працэнтаў. У параўнанні з 2000 годам іх колькасць зменшылася на 791 адзінку, на 419 адзінак зменшылася колькасць плугоў, на 517 - культыватараў.

Амаль на 200 адзінак у параўнанні з мінулым годам скарацілася колькасць збожжаўборачных камбайнаў; з 1.090 камбайнаў-драбілак у працоўным стане знаходзяцца толькі 588; ўсяго 500 спраўных касілак з 992 сёння ў наяўнасці сельгаспрадпрыемстваў вобласці.

У цяжкім стане знаходзіцца і рэмонтная служба: за два першыя месяцы 2001 года паступіла запчастак толькі на 7 мільёнаў рублёў.

**Павал Мажэйка**

# Адзіны рубель - прычына супярэчнасцяў паміж Мінюстам і Палатай прадстаўнікоў

**На мінулым тыдні Дзяржаўная Дума Расейскай Федэрацыі ратыфікавала беларуска-расейскае пагадненне «Аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі і аб фармаванні адзінага эмісійнага цэнтра саюзнай дзяржавы». На чарзе рашэнне беларускага парламента?**

Аднак, усё не так проста! У першы дзень вясны бягучага года Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь дало заключэнне, што вышэйузгаданае пагадненне пярэчыць артыкулу 136 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь (як пярэчыць і артыкулу 145 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь ад 15.03.1994 года без зменаў і дапаўненняў - заўв. аўтара).

Таксама нагадаем, што і большасць суддзяў Канстытуцыйнага суда Беларусі ўказвала на немагчымасць ратыфікацыі ды супярэчнасць Канстытуцыі Пагаднення аб адзіным эмісійным цэнтры (паводле артыкула 7 Пагаднення, адзіны эмісійны цэнтр - Цэнтральны банк Расейскай Федэрацыі).

Тым не менш, большая частка сябраў Камісіі па міжнародных справах і сувязях з СНД Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу рэкамендуюць дэпутатам ратыфікаваць пагадненне аб увядзенні адзінай грашовай адзінкі ды фармаванні адзінага эмісійнага цэнтра на маючай адбыцца сесіі, якая пачне работу 2 красавіка.

Такім чынам, супярэчнасць паміж Міністэрствам юстыцыі ды Камісіяй па міжнародных справах і сувязях з СНД Палаты прадстаўнікоў. Хаця, канечне ж, усе разумеюць, што галоўная супярэчнасць - гэта супярэчнасць Пагаднення Канстытуцыі Беларусі.

Зрэшты, ці будзе з першага студзеня 2005 года расейскі рубель выконваць функцыі адзінай грашовай адзінкі на тэрыторыі Беларусі ды Расейскай Федэрацыі і ці будзе з першага студзеня 2008 года ўведзена адзіная грашовая адзінка Беларусі ды Расеі - пытанні, на якія яшчэ доўгі час ніхто не здолее адказаць. Бо адзіны рубель уводзіўся яшчэ спадаром Кебічам у 1992 годзе.

Дзе той рубель? І дзе цяпер той Кебіч?!

**Кацярына Зволін**

# Запазычанасць па заробку вырасла ў два разы

**Адзін мільярд 571 мільён рублёў склала на пачатак сакавіка запазычанасць па заробнай плаце на прадпрыемствах Гарадзенскай вобласці. Такую інфармацыю паведаміў ПАГОНІ загадчык інфармацыйна-аналітычнага аддзела камітэта Дзяржкантроля па Гарадзенскай вобласці Аляксандр Аўсейчык. У параўнанні з дадзенымі на першае лютага, запазычанасць павялічылася амаль удвая.**

**78 адсоткаў ад усёй сумы запазычанасці прыпадае на сельскагаспадарчыя прадпрыемствы, 16 адсоткаў - на прамысловасць.**

**У перадавіках па нявыплаце зарплаты ідзе Лідскі раён - запазычанасць 206 мільёнаў рублёў. Не нашмат адстаюць Івейскі ды Астравецкі раёны - 136,7 і 131,6 мільёнаў нявыплачаных рублёў адпаведна.**

**Павал Мажэйка**

# Падзяліўся: цяпер уся ўлада - Лукашэнку!

## Ільготы па падатках і мытных плацяжах будзе ўстанаўліваць выключна прэзідэнт

**Першага сакавіка 2001 года афіцыйна апублікаваны Дэкрэт прэзідэнта Рэспублікі Беларусь N6 «Аб упарадкаванні прадастаўлення ільготаў па падатках і мытных плацяжах», які, як зазвычай, з'яўляецца «часовым».**

Дэкрэтам N6 устаноўлена, што ільготы па падатках і мытных плацяжах устанаўліваюцца прэзідэнтам і законамі Рэспублікі Беларусь; ільготы па падатках і мытных плацяжах юрыдычным і фізічным асобам індывідуальна прадастаўляюцца прэзідэнтам; ільготы па падатках і зборах, якія залічваюцца ў мясцовыя бюджэты, прадастаўляюцца мясцовымі Саветамі дэпутатаў або, паводле іх даручэння, мясцовымі выканаўчымі ды распарадчымі органамі (?!?) ў парадку, вызначаным прэзідэнтам і законамі Рэспублікі Беларусь.

Прэзідэнт, згодна з яго ж Дэкрэтам N6, можа прадастаўляць ільготы па падатках і мытных плацяжах «індывідуальным» юрыдычным і фізічным асобам:

1) юрыдычным асобам Беларусі, якія выконваюць надзвычай важныя дзяржаўныя праграмы;

2) юрыдычным асобам Беларусі - пры ўвозе на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь не выпускаемых у Беларусі тэхналагічнага абсталявання і запасных частак да яго для стварэння новай, мадэрнізацыі існуючай вытворчасці;

3) юрыдычным і фізічным асобам Беларусі - для правядзення, адпаведна рашэнню прэзідэнта Беларусі, мерапрыемстваў (удзелу ў мерапрыемствах за мяжой), якія маюць важнае дзяржаўнае значэнне і расходы па якіх не прадугледжаныя ў рэспубліканскім бюджэце...

6) юрыдычным і фізічным асобам - у іншых выпадках, вызначаных прэзідэнтам Беларусі.

Таксама варта адзначыць, што тавары, прызначаныя для вытворчых мэтаў, якія ўвозяцца юрыдычнымі асобамі на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь па кантрактах, плацяжы па якіх уносяцца за кошт замежных крэдытаў, выдадзеных пад гарантыі ўрада Беларусі, вызваляюцца ад абкладання падаткам на дабаўленую вартасць, мытнымі пошлінамі ды акцызамі.

Тавары, якія ўвозяцца на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь у якасці ўкладу замежных удзельнікаў у статутны фонд прадпрыемства з замежнымі інвестыцыямі, вызваляюцца ад абкладання падаткам на дабаўленую вартасць і мытнымі пошлінамі пры ўмове, што гэтыя тавары:

- належаць да асноўных вытворчых фондаў;
- не з'яўляюцца падакцызнымі;
- увозяцца ў тэрміны, устаноўленыя ўстаноўчымі дакументамі для фармавання статутнага фонду прадпрыемства з замежнымі інвестцыямі.

Такім чынам, прэзідэнт цяпер асабіста ўстанаўлівае ільготы па падатках і мытных плацяжах, вызваляе ад падаткаў і мытных плацяжоў, вызначае асобы прававы рэжым для асобных юрыдчыных і фізічных асобаў. Відавочнае чарговае парушэнне зменёнай і дапоўненай у 1996 годзе Канстытуцыі. А менавіта, артыкулаў 97 і 98 (паўнамоцтвы Палаты прадстаўнікоў і паўнамоцтвы Савета Рэспублікі). Зараз падаткі, мытныя плацяжы - гэта паўнамоцтвы прэзідэнта...

Але ж яшчэ зусім нядаўна НЕХТА казаў, што падзеліцца ўладаю з парламентам. Як бачна, кожны дзеліцца па-свойму.

Таксама належыць адзначыць, што Дэкрэт N6 увайшоў у супярэчнасць і з артыкулам 121 зменёнай і дапоўненай Канстытуцыі. Яшчэ «ўчора» ў выключнай кампетэнцыі мясцовых Саветаў дэпутатаў было ўстанаўленне, у адпаведнасці з законам, мясцовых падаткаў і збораў. Цяпер жа, напрыклад, ільготы па падатках і зборах, якія залічваюцца ў мясцовыя бюджэты, могуць прадастаўляцца, паводле даручэння Саветаў, мясцовымі выканаўчымі ды распарадчымі органамі ў парадку, вызначаным прэзідэнтам...

Бліжэйшым часам бальшавіцкі лозунг «Уся ўлада - Саветам» можа быць зменены і выкарыстаны ў Беларусі з улікам карэнных грамадска-палітычных зменаў як «Уся ўлада - пэўнай фізічнай асобе»...

**Кацярына Зволін**

